


3

# VELVET™

BRUBAKER EPTING

VELVET #3 (2013)
ПЕРАКЛАД:
АРТУР БАРАДАЧОЎ
І АФАРМЛЕННЕ:
СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ

.BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

# ED BRUBAKER
WRITER

# STEVE EPTING
ARTIST

## ELIZABETH BREITWEISER
COLORS

## CHRIS ELIOPOULOS
LETTERS

## DAVID BROTHERS
EDITS

## DREW GILL
PRODUCTION

**A NOTE ON FOREIGN LANGUAGES:** Dialog in an italic font should be read as a foreign language.

# VELVET




**IMAGE COMICS, INC.**
Robert Kirkman - Chief Operating Officer
Erik Larsen - Chief Financial Officer
Todd McFarlane - President
Marc Silvestri - Chief Executive Officer
Jim Valentino - Vice-President

Eric Stephenson - Publisher
Ron Richards - Director of Business Development
Jennifer de Guzman - Director of Trade Book Sales
Kat Salazar - PR & Marketing Coordinator
Jeremy Sullivan - Digital Marketing Coordinator
Jamie Parreno - Online Marketing Coordinator
Emilio Bautista - Sales Assistant
Branwyn Bigglestone - Senior Accounts Manager
Emily Miller - Accounts Manager
Jaemie Dudas - Administrative Assistant
Tyler Shainline - Events Coordinator
David Brothers - Content Manager
Jonathan Chan - Production Manager
Drew Gill - Art Director
Meredith Wallace - Print Manager
Monica Garcia - Senior Production Artist
Jenna Savage - Production Artist
Addison Duke - Production Artist
**IMAGECOMICS.COM**

VELVET #3. January 2014. Copyright © 2014 Basement Gang, Inc. & Steve Epting. All rights reserved. Published by Image Comics, Inc. Office of publication: 2001 Center Street, Sixth Floor, Berkeley, CA 94704. “Velvet,” the Velvet logo, and the likenesses of all characters herein are trademarks of Basement Gang, Inc. & Steve Epting, unless otherwise noted. “Image” and the Image Comics logos are registered trademarks of Image Comics, Inc. No part of this publication may be reproduced or transmitted, in any form or by any means (except for short excerpts for journalistic or review purposes), without the express written permission of Basement Gang, Inc. & Steve Epting, or Image Comics, Inc. All names, characters, events, and locales in this publication are entirely fictional. Any resemblance to actual persons (living or dead), events, or places, without satiric intent, is coincidental. DIGITAL EDITION. For international rights inquiries, contact: VelvetTempleton@gmail.com. Media Inquiries should be directed to: Geoff Morley and Julien Thuan at UTA.


АДЗІН З САМЫХ ДЗІЎНЫХ АСПЕКТАЎ **АПЕРАТЫЎНАЙ** ПРАЦЫ...
...ЗАКЛЮЧАЕЦЦА Ў ТЫМ, ШТО ЯЕ ВЫКОНВАЮЦЬ АПЕРАТЫЎНІКІ, ЯКІЯ НЕНАВІДЗЯЦЬ ПРЫТРЫМЛІВАЦЦА **ПРАВІЛ**...


...АДНАК ЯНЫ ЧАМУСЬЦІ НЯДРЭННА ВЫКОНВАЮЦЬ **ЗАГАДЫ**.


У ПАДОБНЫМ ПАДЫХОДЗЕ ХАВАЕЦЦА **ЗГУБНАЯ** ПАЗІЦЫЯ...
ІДЭЯ, ШТО ПРАВІЛЫ ДЛЯ **АСТАТНІХ ЛЮДЗЕЙ**, ДЛЯ ГРАМАДЗЯНСКІХ.


А ШПІЁНЫ, НЕЗАЛЕЖНА АД ТАГО, НА ЧЫІМ ЯНЫ БОКУ, ЗУСІМ **НЕ ПАДОБНЫ** НА АСТАТНІХ.


НАПРЫКЛАД, ТОЛЬКІ ШПІЁН ПРАКРАДАЕЦЦА **Ў** ТУРМУ.


І ЗВЫЧАЙНА ГЭТА АДБЫВАЕЦЦА НА ТЭРЫТОРЫІ ВАРОЖАГА ЗАМЕЖНАГА...
НЕ ВАРУШЫСЯ!


РУКІ ЎГОРУ, УСТАЦЬ НА КАЛЕНЫ!
ХУТКА!


Я СКАЗАЎ: НА КА...


...ЛЕ... УНХ...


ТАК... ПРА ШТО ГЭТА Я?

# VIENNA – THREE DAYS EARLIER
# ВЕНА, ТРЫМА ДНЯМІ РАНЕЙ

БЁРК ВЫВЕЗ МЯНЕ З ЛОНДАНА.

ГЭТА ЯГО **ПРАЦА** – ПРЫМУШАЦЬ ШТОСЬЦІ ЗНІКАЦЬ...

КАЛІСЬЦІ ЁН БЫЎ АДНЫМ З ЛЕПШЫХ МАІХ АГЕНТАЎ.

...КАБ ПОТЫМ З'ЯВІЦЦА НА **ІНШЫМ БОКУ** МЯЖЫ.

Я, КАБ ЯГО, **ВЕДАЎ** – ІДЭЯ ЛАЙНОВАЯ.

ГЭТА **ТВАЯ** ІДЭЯ.

З ЧАСОЎ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ЁН ПРАЦАВАЎ НА САМЫЯ РОЗНЫЯ **ФРАКЦЫІ** Ў САМЫХ РОЗНЫХ КРАІНАХ...

...ТАМУ **ЗАЎСЁДЫ** ВЕДАЎ БОЛЬШ, ЧЫМ ЯМУ, БАДАЙ, **ТРЭБА БЫЛО**.

**ЗРАЗУМЕЎ**, АДРАЗУ ПЕРАХОДЗІМ ДА ДЗЁЎБАНАГА ПОШУКУ ВІНАВАТЫХ.


ТАБЕ ПАТРЭБНА БЫЛА ЛОДКА, Я **ЗНАЙШОЎ** ЛОДКУ.
МАЕШ НА ЎВАЗЕ, **УКРАЎ У ГАЛОЎНАГА КРЫМІНАЛЬНАГА АЎТАРЫТЭТА** АЎСТРЫІ.


Я Ж **СКАЗАЎ**: ІДЭЯ ЛАЙНОВАЯ.


ЗАБІЦЕ ЛЕПШ **ЛЯПЫ**. ВЫ ПАТРЭБНЫ ЭРЫКУ ЖЫВЫЯ, АЛЕ **НЯ ТАК**, КАБ ВЕЛЬМІ.
ДАВАЙЦЕ НА ЯХТУ І...


НЕ.


УХК!...


БОЖА, БЁРК... НЯ ДУМАЮ, ШТО Ў КАРАНТЫШКІ БЫЎ ПІСТАЛЕТ.
ШТО Ж, А ПАВІНЕН БЫЎ БЫЦЬ... ЧАРТОЎСКІ ГЛУПА З ЯГО БОКУ, НЕ ЗНАХОДЗІШ?




НУ ДЫК МЫ ГАТОВЫЯ ДА ПАДАРОЖЖА ПА ДУНАІ ПРЫ СВЯТЛЕ МЕСЯЦА?
МЯРКУЮ, ВЫБАРУ Ў МЯНЕ НЯМА...




ДЗІЎНАЯ СПРАВА, АЛЕ МЁРТВЫЯ ЦЕЛЫ МЯНЕ ЎЖО НІ КРОПЕЛЬКІ НЕ НАПРУЖВАЮЦЬ.


Я ЎЯЎЛЯЮ, ЯК СЯРЖАНТ РОБЕРТС І ЯГО КАМАНДА ТРЫБУШАЦЬ МАЮ КВАТЭРУ Ў ПОШУКАХ ЗАЧЭПКІ, ЯКАЯ ПРЫВЯДЗЕ ДА МЯНЕ...
АДНАК Я **НЕ** ЗБІРАЮСЯ ХАВАЦЦА.


Я **АДСАЧУ** ШЛЯХ ДЖЭФЕРСАНА КЕЛЕРА.
ТАМУ ШТО ЎСЁ ПАЧАЛОСЯ З ЯГО **ЗАБОЙСТВА**, І МОЙ АДЗІНЫ КЛЮЧ ДА РАЗГАДКІ – **ЗНІКЛЫ ДЗЕНЬ** АПЕРАЦЫІ АДНАГАДОВАЙ ДАЎНАСЦІ.


Х-14 ПАСЛАЛІ Ў **БЕЛГРАД** ПРАДУХІЛІЦЬ ПАГАДНЕННЕ ПА ПРОДАЖЫ ЗБРОІ.
КАБ ПАДАБРАЦЦА БЛІЖЭЙ, ЁН СПАКУСІЎ **СТАТУТНУЮ ЖОНКУ** ЮГАСЛАЎСКАГА ГЕНЕРАЛА.


ПАВОДЛЕ ДАНЯСЕННЯ, ЁН ПРАВЁЎ З ЁЙ НОЧ **ПЕРАД** ЗНІКЛЫМ ДНЁМ...
ЗНАЧЫЦЬ, ГЭТА І БЫЛА МАЯ МЭТА – **МАРЫНА СЦЯПАНАВА**.


А ДАМАЧКА НІЧОГА.
УСЕ ЯНЫ ТАКІЯ...


БОЖА, У САМАДАЕК ГЭТАГА ГАНГСТАРА **АГІДНАЕ** ПАЧУЦЦЁ СТЫЛЮ...
ТРЭБА ЗНАЙСЦІ ШТОСЬЦІ Ў ГОРАДЗЕ...
МАБЫЦЬ, АПРАБУЕШ ПАРАЧКУ, КАБ БЫЦЬ АБСАЛЮТНА ЎПЭЎНЕНАЙ?


У СЭНСЕ, Я НЯ СУПРАЦЬ **ПАГЛЯДЗЕЦЬ** ПАКАЗ МОД...


ТАДЫ ЕДЗЬ У **МІЛАН**, БЁРК...


...І СКАНЧВАЙ ТАРАШЧЫЦЦА, БЫЦЦАМ МНЕ ПА-РАНЕЙШАМУ ДВАЦЦАЦЬ ПЯЦЬ.


BELGRADE
БЕЛГРАД
МОЙ ПЛАН ЗАКЛЮЧАЕЦЦА Ў ТЫМ, КАБ ЗНАЙСЦІ ХВІЛІНКУ САМ-НАСАМ СА СПАДАРЫНЯЙ СЦЯПАНАВАЙ...


...І ПРЫСТРАШЫЦЬ ВЫКРЫЦЦЁМ СУВЯЗІ З X-14, КАЛІ ЯНА НЯ СКАЖА ТОЕ, ШТО МНЕ ТРЭБА.


УКАРАНІЦЦА Ў АБСЛУГУ ПРЫЁМУ, ЯКУЮ НАВЕДВАЎ ГЕНЕРАЛ, БЫЛО ДАСТАТКОВА ЛЁГКА...


ХУТКАЯ ЗМЕНА ВОБРАЗА З АФІЦЫЯНТКІ...


...У ДАМУ СА СВЕЦКАГА КОЛА.


АДЗІНАЯ ПРАБЛЕМА ЗАКЛЮЧАЕЦЦА Ў ТЫМ, ШТО СЁННЯШНЯЯ СПАДАРОЖНІЦА ГЕНЕРАЛА НЕ МАРЫНА.
NOT MRS. STEPANOV
НЕ СПАДАРЫНЯ СЦЯПАНАВА
А ЯГО З'ЯЎЛЕННЕ НА ПУБЛІЧНЫМ МЕРАПРЫЕМСТВЕ З ІНШАЙ ЖАНЧЫНАЙ - ДРЭННЫ ЗНАК.


КАЛІ ЁН ДАВЕДАЎСЯ, ШТО МАРЫНА СТАЛА ПРЫЧЫНАЙ, ПА ЯКОЙ ІХ ПАГАДНЕННЕ ЛІТАРАЛЬНА ПАДАРВАЛАСЯ...
ТАДЫ Ў ЯГО БЫЛІ ДВА ШЛЯХІ ВЫРАТАВАЦЬ СВАЮ КАР'ЕРУ.

ЯЕ РАПТОЎНАЯ СМЕРЦЬ ЯК ПРЫКРЫЦЦЁ, ЯКАЯ, ЯК Я ВЕДАЛА, НЯ МЕЛА МЕСЦА...
ЦІ ДАКАЗАЦЬ АДДАНАСЦЬ, КІНУЎШЫ ЖОНКУ Ў ТУРМУ.

ЧОРТ.
ЧАГО Ў МАІМ ЖЫЦЦІ ЗАРАЗ НЕ ХАПАЕ, ДЫК ГЭТА ЧАРГОВЫХ УСКЛАДНЕННЯЎ.

ГЭТА НЕ СССР, АЛЕ ЮГАСЛАВІЯ ЎСЁ ЯШЧЭ КАМУНІСТЫЧНАЯ КРАІНА...
А КАМУНІСТЫ НАЛАЎЧЫЛІСЯ ВЫДАЛЯЦЬ ЛЮДЗЕЙ.

ШТО Ж, ДОБРА... ЗНОЙДЗЕМ НОВУЮ МЭТУ.


МНЕ ПАТРЭБНЫ ДОСТУП ДА ЗАПІСАЎ ПРА АРЫШТЫ І ПАПЕРЫ ПРА ПЕРАВОДЫ...
ГЭТА ЯШЧЭ **АДНА РЭЧ,** ДЗЕ КАМУНІСТЫ НАЛАЎЧЫЛІСЯ... СПРАВАВОДСТВА.

ПРЫСЛУХОЎВАЮЧЫСЯ ДА ГУТАРАК, Я ЗНАХОДЖУ ПАТРЭБНАГА ЧАЛАВЕКА...
MINISTRY OFFICER
МІНІСТЭРСКІ ЎРАДНІК
ЯКІ, ЗРАЗУМЕЛА, АПЫНУЎСЯ АГІДНАЙ СВІННЁЙ.

СЦІСНУЎШЫ ЗУБЫ, Я АМАЛЬ АДВАЖЫЛАСЯ ПАДЫСЦІ...

...КАЛІ ЎБАЧЫЛА, ШТО **ПЛАН "Б"** КУДЫ БОЛЬШ ПРЫВАБНЫ.
HIS ASSISTANT
ЯГО ПАМОЧНІК

І КАЛІ Я ШТО І ДАВЕДАЛАСЯ ЗА АПОШНІЯ 18 ГАДОЎ, ДЫК ГЭТА ТОЕ, ШТО Ў СВЕЦЕ КІРУЮЦЬ **ДАПАМОЖЦЫ**...
АГЕНЬЧЫКУ НЯ ЗНОЙДЗЕЦЦА?
КАНЕШНЕ, ПРАШУ...










Я ПРЫКІДАЮСЯ, ШТО ЎРАЖАНА ЯГО ПРАЦАЙ, ПОТЫМ ЖАРТУЮ НАКОНТ “ОФІСНАЙ” СЭКС-ФАНТАЗІІ... А ДАЛЕЙ І СТАРАЦЦА НЯ ТРЭБА.




...ВОСЬ ЯК Я АПЫНУЛАСЯ ТУТ.
ТАМУ ШТО, ЯК Я І КАЗАЛА РАНЕЙ, ЧАГО Ў МАІМ ЖЫЦЦІ **НЕ ХАПАЕ,** ДЫК ГЭТА ЧАРГОВЫХ УСКЛАДНЕННЯЎ.


А **ВОСЬ** І БЁРК З **АДЦЯГВАЮЧЫМ МАНЕЎРАМ.** ВЫДАТНА.


НІШТО ТАК НЕ ВЫВОДЗІЦЬ СІСТЭМУ З ШЫХТУ, ЯК РУПЛІВА РАЗМЕШЧАНЫ ЗАРАД.


ПА ГРУБЫХ ПРЫКІДКАХ, ДА ЎКЛЮЧЭННЯ АСТРОЖНАГА **ГЕНЕРАТАРА** Ў МЯНЕ БУДЗЕ **ШЭСЦЬ ХВІЛІН.**
ГАХ!...


МАРЫНА...?


Я СЯБАР...
ЯКАЯ ТАМ ЛЕГЕНДА БЫЛА Ў Х-14?
ФЭЛКАН... МАРК ФЭЛКАН... А ВЫ...?


МАРЫНА, Я СЯБАР МАРКА ФЭЛКАНА...
ПРАШУ... КЛЯНУСЯ...
...Я НІЧОГА ПРА ЯГО НЯ ВЕДАЮ...


НЕ, Я ПРЫЙШЛА **ВЫЗВАЛІЦЬ** ВАС...
МАРЫНА?


О БОЖА...

УНУТРЫ КІПІЦЬ ЛЮТАСЦЬ, АЛЕ Я ЗАШТУРХВАЮ ЯЕ ПАГЛЫБЕЙ.
НА ГЭТА НЯМА ЧАСУ.
МАРЫНА, ПАСЛУХАЙЦЕ... ВЫ ПАВІННЫ ПАЙСЦІ СА МНОЙ. **ХУТЧЭЙ**.
У МЯНЕ ЗАСТАЛАСЯ ТРЫ З ПАЛОВАЙ ХВІЛІНЫ...
ДОБРА...
НА ШЧАСЦЕ, ЯНА ДУЖЭЙ, ЧЫМ ВЫГЛЯДАЕ.
ПАДТРЫМЛІВАЦЬ ЯЕ ТРЭБА БЫЛО ТОЛЬКІ АДНОЙЧЫ.
КАЛІ ЎКЛЮЧЫЛІ ЭЛЕКТРЫЧНАСЦЬ, МЫ БЫЛІ ЎЖО НА ПАЎДАРОГІ Ў СТАРАЖЫТНЫМ КАЛЕКТАРЫ, АМАЛЬ У БЯСПЕЦЫ...
...АЛЕ Я НЕ МАГЛА СКАЗАЦЬ, ЦІ РАЗУМЕЕ МАРЫНА ЎВОГУЛЕ, ШТО АДБЫВАЕЦЦА.




НІЯКІХ ВЕРАГОДНЫХ ЗВЕСТАК З ЯЕ НЯ ВЫЦЯГНЕШ, КАЛІ ЎВОГУЛЕ ВЫЦЯГНЕШ...

БЁРК, СЦІХНІ... Я РАЗВАЖАЮ.










Я НЯ Ў СТУПАРЫ...


МОЖНА ЦЫГАРЭТУ?
КАНЕШНЕ... ЧАСТУЙЦЕСЯ.
Я НЕ ЖАДАЎ ВАС ПАКРЫЎДЗІЦЬ.




МАРЫНА... Я БЫЛА СЯБРАМ ЧАЛАВЕКА, ЯКОГА ВЫ ВЕДАЛІ ЯК МАРКА ФЭЛКАНА...
**БЫЛА?**
ЗНАЧЫЦЬ ЁН МЁРТВЫ?


ДОБРА.


МАРЫНА, НЯЗРУЧНА ПРАСІЦЬ ПРА ГЭТА...
ДАРЭЧЫ, ЗАРАЗ **ПРА ЎСЁ** НЯЗРУЧНА ПРАСІЦЬ...


...АЛЕ МНЕ ПАТРЭБНА ВАША ДА-ПАМОГА.
Я ЖАДАЮ ПАБАЧЫЦЬ **СЫНА**...


ШТО? НЕ, ПРАБАЧЦЕ, ГЭТА **НЕМАГЧЫМА**.
МЫ МОЖАМ ЗАБЯ-СПЕЧЫЦЬ ВАС НОВАЙ АСОБАЙ, ДАСТАВІЦЬ У **БЯСПЕЧНАЕ** МЕСЦА...


АДНАК, ЯК ТОЛЬКІ ЗНОЙДУЦЬ ЗВЯ-ЗАНЫХ **АХОЎНІКАЎ**, ВЫ СТАНЕЦЕ САМАЙ НЕБЯСПЕЧНАЙ ЖАНЧЫНАЙ ЮГАСЛАВІІ.
ТАК... АЛЕ Я НЕ ДУРНАЯ...
Я РАЗУМЕЮ, ШТО ЎЖО НІКОЛІ НЕ ВЯРНУСЯ **ДАДОМУ**...


ТАМУ Я СКАЖУ ВАМ ТОЕ, ШТО ВЫ ЖАДАЕЦЕ ДАВЕДАЦЦА...


АДНАК НЕ ПАЕДУ, ПАКУЛЬ **НЕ ПАБА-ЧУ** ЯГО...


ПРАКЛЁН.


МАБЫЦЬ, Я СТАЛА МЯККАЙ, ТАМУ ШТО ГЭТА **ПОЎНАЯ ЛУХТА**...
АДНАК ПРАЦА **З АГЕНТАМІ** – СПРАВА РУПЛІВАЯ.
ДЗВЕ ХВІЛІНЫ, ЗРАЗУМЕЛІ? І **НЕ** БУДЗІЦЕ ХЛОП-ЧЫКА.


І МАРЫНА МАЕ РА-ЦЫЮ НАКОНТ ЖЫЦ-ЦЯ, ШТО ЯЕ ЧАКАЕ...
ГЭТА НЕ **ТУРЭМ-НАЯ КАМЕРА**, АЛЕ І ЛЁГКА ЁЙ НЯ БУДЗЕ.
ПА-ВАШАМУ, Я ЖАДАЮ, КАБ МЯНЕ **ЎБАЧЫЛІ?**


ЖЫЦЦЁ ЯЕ БУДЗЕ ГОРКІМ І САМОТНЫМ, І, ВЕРАГОДНА, КЕПСКА СКОНЧЫЦЦА.
ПРОСТА КАБ БЫЛО **ЗРАЗУМЕЛА**...


У ГЕНЕРАЛА БЫЎ ЦЭЛЫ ВЕРХНІ ПАВЕРХ У АДНОЙ З ЛЕПШЫХ ГАСЦІНІЦ У ГОРАДЗЕ...


АДНАК МАРЫНА ВЕ-ДАЛА, ШТО **ЎВАХОД ДЛЯ ПЕРСАНАЛУ** НЕ АХОЎВАЕЦЦА...
ЗВОНКУ ДВА САЛДАТЫ. ЛЯ ЛІФТА.
ЯНЫ НЕ ПАТРУ-ЛЮЮЦЬ АПАР-ТАМЕНТЫ...


ДАЛЕЙ Я САМА.
НЕ, НАВАТ НЕ...


ВЕДАЕЦЕ, ЯК НА МЯНЕ ВЫЙШЛІ? Я ЗАЦЯЖАРЫЛА...


АДНАК МУЖ УЖО ШМАТ ГАДОЎ ІМПАТЭНТ...


ВЫ ЦЯЖАРНАЯ?
НЕ... УЖО НЕ...


КАЛІ ЛАСКА, ДАЗВОЛЬЦЕ МНЕ РАЗВІТАЦЦА САМ-НАСАМ...


ДЗВЕ ХВІЛІНЫ.


АХОЎВАЮЧЫ ЯЕ, Я ПРАКРУЧВАЮ Ў ГАЛАВЕ РАПАРТ Х-14...


І РАПТАМ Я РАЗУМЕЮ...


ЁН ЖА НЕ КАЗАЎ...
ШТО...?


ШТО Ў МАРЫНЫ ЁСЦЬ СЫН.


ТЫ.
НЕ!
ХУРК...


АХТ...
PFFT
PFFT




ПРАКЛЁН, МАРЫНА... ЧОРТ ПАДЗЯРЫ...
ДЗЯКУЙ, ШТО ПРЫСТРЭЛІЛІ ЯГО...
МОЖАЦЕ ЗАДАВАЦЬ СВАЕ... ПЫТАННІ


ПРА СЯБРА-**ПАДОНКА**...


ПРАЦЯГ БУДЗЕ